# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 33 (807) ГОД XVI БЕЛАСТОК 15 ЖНІЎНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.


АЛЯКСАНДР ЯРЫМОВІЧ

— ГАСПАДАР З ОРЛІ

## Зямля — бы жанчына

Гэта яго словы.

— А каб вы ведалі, — гаварыў мне, — зямля, бы прыгожая, хаця крыху капрызная жанчына: яе трэба шчыра любіць, пастаянна каля яе скакаць, адносіцца да яе ласкава, дзень і ноч думаць пра яе. Толькі тады адплоціцца яна высокім ураджаем.

А пасля яшчэ дадаў:

— Бачыце, хлебаробствам немагчыма займацца, калі не любіш сваёй сялянскай прафесіі, калі зямля не прыкуе цябе да свайго ўзлоння так моцна, як толькі бывае ў сапраўдным каханні. Толькі тады чалавек зможа адолець гэты цяжар сельскагаспадарчай прафесіі. Інакш лепш зусім не брацца за хлебаробства і ўцякаць, дзе вочы панясуць — на будову, у шахты, на заводы.

Запісваю яго словы і з цікавасцю ўзіраюся ў яго твар, які пастаянна раз'ясняе добразычлівая, заахвочваючая да шчырасці, усмешка.

Аляксандру Ярымовічу ўсяго 26 гадоў. Думаю: адкуль у яго такія сталыя, прадуманыя меркаванні?

Суровы лёс не дазволіў яму паглыбляць сваіх ведаў за школьнымі партамі. Змог ён закончыць толькі пачатковую школу.

— І яшчэ, — дадае ён, — калі служыў у войску, дык вучыўся на гадавым курсе, прысвечаным справам сельскай гаспадаркі, у выніку чаго атрымаў я дыплом кваліфікаванага гаспадара.

Працяг на стар. 4



Над Бугам.

Фота Цаф — Сянько

## На вёсцы і ў павеце

Найвялікшая праблема, якая стаіць перад нашай сельскай гаспадаркай — гэта павелічэнне жывёла- і свінагадоўлі. Пакуль што гаспадары заняты жнівам, і справы гадоўлі і скупкі недзе прытаіліся, каб восенню зноў апынуцца на парадку дня афіцыяльных і неафіцыяльных размоў.

**Бываў я часта ў Дзянісках, Бельска**га павета і прыходзілася мне многа чуць адносна скупкі жывёлы, а таксама ўмоў, якія ствараюць пры гэтым або не ствараюць улады. Справы, аб якіх пішу, былі прадметам маіхназіранняў не аднаго, а некалькіх дзён.

Дзяніскі — вёска, якая мае многа зялёных угоддзяў, а ў сувязі з гэтым павінна развіваць жывёлагадоўлю. Ці так яно ёсць? Не заўсёды. Тутэйшыя гаспадары расказвалі мне, што фактычна Дзяніскі маглі б быць перадавой вёскай у жывёлагадоўлі, але, на жаль, многа кароў ходзіць яловымі. А каровы яловыя з той прычыны, што ў вёсцы няма інсемінатара. Дзяніскаўскія каровы абслугоўвае інсемінатар з Плёсак, якія знаходзяцца ў 4—6 кіламетрах. Гэта нявыгадна з той прычыны, што плёскаўскаму інсемінатару трэба плаціць на 20 зл. больш (за прыезд) і, зразумела, не заўсёды яго можна застаць дома, адтуль і частае ператэрмінаванне інсемінацыі.

Дзяніскаўскія гаспадары, здавалася б, не павінны мець клопатаў са збытам жывёлы. Могуць яе прадаваць у трох пунктах скупкі: Рыбалах, Страблі і Бельску. Аднак яны наракаюць. Гаворыць Палікарп М.: «Аднойчы завёў я карову у Рыбалы. Класіфікатар сказаў мне адразу, што ён дае другую катэгорыю, але запрапанаваў, каб я склаў рэкламацыю да мяснога промыслу, і мне там напэўна прызнаюць першы гатунак. Бо ён інакш зрабіць не можа».

Вельмі часта ў дзяніскаўцаў паўтаралася сцвярджэнне, што ў Рыбалах не надта хочуць прымаць жывёлу, але прымаюць яе ў Страблі і Бельску. Тлумачылі гэта тым, што ў Страблі і Бельску ёсць вагоны, і маюць чым яе вазіць, а ў Рыбалах не хапае транспарту. Зрэшты, на адным са «спэндаў» у Рыбалах (18.V. г.г.) на 24 пастаўленыя штукі прынялі толькі 12 штук жывёлы.

Вельмі многа горкіх папрокаў падала ў адрас ветэрынарыі. Справа тут маецца так, што калі гаспадар выклікае ветэрынарную дапамогу да хворага інвентара, дык рэдка калі прыязджае яна ў «гадзінах працы» ($8^{00}$ — $15^{00}$). У асноўным прыязджаюць ветэрынары пасля трэцяй і тады, зразумела, «пан дохтар» прыязджае на таксі. За таксі гаспадар плаціць 160 зл. плюс 70 зл. за візіт, плюс уколы ці іншыя рэчы, так што такое лячэнне каштуе гаспадару 600—700 зл. І, што характэрнае, калі, напрыклад, іншыя гаспадары (за адным заходам) клічуць да сябе гэтага ветэрынара, дык кожны з іх мусіць плаціць «за таксі» па 160 зл.

Даволі часта здараюцца і такія выпадкі. Гаспадар, які гадуе свіней, часта сам, а не, дык з дапамогай суседа ведае, што ў «парасят рабакі». Ад гэтай хваробы лякарства каштуе 10 зл., не больш. Аднак без рэцэпта яго не купіш. У сувязі з тым гаспадар едзе ў Бельск, трацячы дзень не аднойчы ў самае жніво. Заходзіць да ветэрынара

Працяг на стар. 4

## Доктар Пухнарэвіч — біяграфія пакалення

Перадаем расказ др Ярослава Пухнарэвіча — дырэктара павятовага шпіталя ў Гайнаўцы, у вялікім скарачэнні. Тым не менш паўстае перад намі цікавы вобраз чалавека, яго эпохі і яго пакалення.

* ✲ *

Што ж, я паляшук, з-пад Пружан. Нарадзіўся даволі даўно, гэта значыць аж у 1909 годзе. Бацька, беларус з Ру-



жан у даўнім Пружанскім павеце, маці на вёсцы каля Пружан была настаўніцай. Гаварылі, што прозвішча наша мае французскую генеалогію Ля-Пушнарэ і насіў гэта прозвішча адзін напалеонаўскі салдат, які, уцякаючы з далёкай Расіі, застаўся ля Пружан і стаўся маім пра-прадзедам.

Першая вайна — эвакуацыя ў глыб Расіі. Апынуліся мы ў Сызрані над Волгай. Мне было 8—9 год, я дружыў з волжскімі бурлакамі. У 21 годзе вяртанне на радзіму. Пачалі мы жыць у Брэсце над Бугам. Тут я скончыў гімназію. Потым вучыўся ва ўніверсітэце імя Стэфана Баторыя ў Вільні на медыцынскім факультэце. Закончыў універсітэт у 1938 годзе, прыехаў у Брэст. Пасля гадавога стажу ў гарадскім шпіталі агледзеўся за пасадай. Нідзе мяне не хацелі прыняць з прычын, як тады гаварылася, веравызнання. Прыняў я, нарэшце пасаду лекара для ўбогіх. Да вайны гэта былі сапраўды ўбогія. Мая зарплата ў параўнанні з іншымі лекарамі была ў некалькі разоў меншая.

Адным прыгожым ранкам пачалася вайна. Брэст — горад вайсковы. Ішла страшная бамбардзіроўка. Я далей хадзіў да маіх убогіх. Ды аднойчы, падышоўшы да прытулку для ўбогіх, не застаў яго, усё ляжала ў грузах.

Армія Гудэрыяна валілася на горад. Недзе ў канцы першай дэкады верасня (1939) я з'явіўся ў гарадскім шпіталі. Усе вышэйшыя лекары паўцякалі. Засталося некалькі, між іншым, доктар Гедрайць — цяпер вядомы беластоцкі лекар.

Наша 4-асабовая група пастанавіла, што не пакінем шпіталя. А што там тады дзеялася! Мы аперыравалі пад бомбамі. Не было яшчэ тады антыбіётыкаў, але ў нас не было і лякарстваў, бінтоў. Многа паміралі. Гітлераўцы, калі ўвайшлі ў горад, шукалі афіцэраў. Але мы іх раней астрыглі, як звычайных салдат і перахоўвалі ў шпіталі.

Мая жонка працавала настаўніцай у Кляшчэлях. І я на пачатку 1940 сюды прыехаў. Тут удваіх з адной лекаркай, — яна была яўрэйкай, вялі мы нейкі час амбулаторыю, да 22.VI.41, калі немцы ўдарылі на СССР. Снарад упаў мне ў кабінет. Пачалася паніка. У Кляшчэлях быў шпіталь, і я цяпер пачаў і тут працаваць. Хутка гэты шпіталь пачаў запаўняцца раненымі. Мне ў часе ўсёй акупацыі памагалі дзве медсястры, камсамолкі, якія засталіся і якіх мы хавалі.

1 лістапада 41 года нарадзілася мая дачка. Яна закончыла ўніверсітэт і цяпер працуе ў бібліятэцы Медыцынскай акадэміі ў Беластоку.

Амільяновіч апісаў у «Беластоцкай газеце» дыверсію ў Чарамусе. Бяседзін, які дыверсію правёў, жыў у мяне за сцяной. Жыў ён у Ольгі Кандрацкай, якая і дагэтуль пражывае ў Кляшчэлях. Шкада, што Амільяновіч не ўспа-

Працяг на стар. 4

**◆ Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі ◆**

## СВЕТ

### СУСТРЭЧА Ў КРЫМЕ

2 жніўня г.г. у Крыме адбылася сяброўская сустрэча кіраўнікоў камуністычных і рабочых партый многіх сацыялістычных краін, а таксама савецкіх партыйных і дзяржаўных кіраўнікоў.

Удзельнікі сустрэчы ўзаемна паінфармавалі аб сацыялістычным і камуністычным будаўніцтве ў сваіх краінах. Пры тым было аднадумна адзначана ўзрастаючае значэнне вялікіх поспехаў, дасягнутых брацкімі сацыялістычнымі дзяржавамі, цеснага ўсебаковага ўзаемадзеяння паміж імі на аснове прынцыпаў марксізма-ленінізма і сацыялістычнага інтэрнацыяналізму.

Многа месца прысвяцілі ўдзельнікі сустрэчы справам еўрапейскай бяспекі. Рэалізуючы на практыцы ленінскую замежную палітыку, брацкія сацыялістычныя краіны высунулі шэраг сур'ёзных ініцыятыў, якія накіраваны на забеспячэнне трывалага міру ў Еўропе і патрапілі дабіцца пазітыўнага прагрэсу ў еўрапейскай сітуацыі.

На сустрэчы яшчэ раз было падкрэслена, што братнія сацыялістычныя краіны і далей будуць аказваць усебаковую дапамогу народам Індакітая ў іх барацьбе супраць амерыканскай агрэсіі.

У ходзе сустрэчы была пацверджана цалкавітая згоднасць поглядаў адносна падтрымкі справядлівай барацьбы арабскіх народаў за аднаўленне міру на Блізкім Усходзе. Удзельнікі сустрэчы выразілі сур'ёзную трывогу па поваду лютага тэрору ў Судане.

### ПАГАДНЕННЕ

Паміж Мексікай і Кубай заключана новае пагадненне аб паветраных адносінах, згодна з якім самалёты кубінскай авіякампаніі «Кубана дэ авіясьён» будуць рабіць палёты ў Мехіка, а самалёты мексіканскай «Мехікана дэ авіясьён» — у Гавану.

### ЗА ЗАБАРОНУ АТАМНАЙ І ВАДАРОДНАЙ ЗБРОІ

У Токіо адбылася 17-ая Міжнародная канферэнцыя за забарону атамнай і вадароднай зброі. У яе рабоце прынялі ўдзел каля 100 японскіх дэлегатаў і больш 30 зарубежных прадстаўнікоў з 10 краін свету і сямі міжнародных арганізацый.

У асноўным дакладзе, прадстаўленым на разгляд удзельнікам міжнароднай часткі канферэнцыі, падкрэсліваецца неабходнасць яшчэ шырэй разгарнуць барацьбу за спыненне амерыканскай агрэсіі ў Індакітаі, за поўную забарону ядзернай зброі, за ліквідацыю японаамерыканскага дагавору, бяспекі, і зварот Акінавы без амерыканскіх ваенных баз і ядзернай зброі.

### ПАЕЗДКА С. АГНЮ

Віцэ-прэзідэнт ЗША С. Агню завяршыў у мінулым тыдні паездку па дзесяці краінах Азіі, Афрыкі і Заходняй Еўропы, якая працягвалася цэлы месяц. Агню суправаджала світа ў складзе 141 чыноўніка і 11 журналістаў. Іх абслугоўвала армада з 4-ох лайнераў «Боінг — 707» для пасажыраў і грузавы самалёт для двух браніраваных лімузын. (ак)

## БССР

### НОВЫ КОДЭКС

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі нядаўна зацвердзіў новы папраўча-працоўны кодэкс Беларускай ССР.

Папраўча-працоўнае заканадаўства Беларускай ССР мае сваёй задачай забеспячэнне выканання крымінальнага пакарання з тым, каб яно не толькі з'яўлялася карай за ўчыненае злачынства, але выпраўляла і перавыхоўвала асуджаных у духу сумленных адносін да працы, дакладнага выканання законаў і павагі да правіл сацыялістычнага супольнага жыцця, папярэджвала ўчыненне новых злачынстваў як асуджанымі, так і іншымі асобамі, а таксама садзейнічала выкараненню злачыннасці. Выкананне пакарання не мае на мэце прычыненне фізічных пакут або прыніжэнне чалавечай годнасці.

### ФАБРЫКА Ў ВОДПУСКУ

Трыкатажнікі мінскай фабрыкі «Прагрэс» усім вытворчым калектывам пайшлі ў чарговы водпуск. Адміністрацыя і фабрычны камітэт прафсаюза загадзя паклапаціліся аб здаровым адпачынку рабочых і служачых. За кошт фонду прадпрыемства на маляўнічым беразе возера Нарач вырас палатачны гарадок. Тут правядуць свой водпуск 160 чалавек. Частка рабочых на аўтобусах зробяць экскурсіі ў Маскву, Севастопаль і Ленінград. Каля 300 чалавек папраўяць сваё здароўе у санаторыях і дамах адпачынку, прыймуць удзел у турысцкіх паходах.

### У ЛАГЕРАХ

Каля 90 тысяч піянераў і школьнікаў горада Мінска праводзяць лета ў 67 загарадных і 90 гарадскіх піянерскіх лагерах. Дзеці рабочых і служачых светлагорскага завода штучнага валакна атрымалі сёлета ў падарунак цудоўны піянерскі лагер «Чайка». Гэты лагер размясціўся паблізу ракі Беразіны.

### СМЕРЦЬ ПІСЬМЕННІКА

Трэцяга жніўня г.г. памёр Янка Маўр, адзін з заснавальнікаў беларускай савецкай дзіцячай літаратуры, старэйшы пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры БССР.

Янка Маўр (Іван Міхайлавіч Фёдараў) нарадзіўся ў 1883 годзе ў горадзе Лібаве ў сям'і рабочага. Першыя творы Янкі Маўра — фельетоны і нарысы — з'явіліся ў друку ў 1923 годзе, а ў 1925 годзе часопіс «Беларускі піянер» надрукаваў яго першую аповесць «Чалавек ідзе». За час сваёй літаратурнай дзейнасці Я. Маўр напісаў шмат твораў для юнага чытача, у тым ліку: «У краіне райскай птушкі», «Сын вады», раман «Амок», аповесці «Палескія рабінзоны», «Аповесць будучых дзён», «ТВТ», «Шлях цемры», «Фантанабіль прафесара Цылякоўскага», акрамя таго, ім напісаны шэраг апавяданняў, фельетонаў, памфлетаў, адрасаваных дарослым чытачам. Большасць твораў пісьменніка перакладзена на рускую, украінскую і мовы іншых братніх народаў СССР, а таксама на мовы краін народнай дэмакратыі. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

6 жніўня г.г. I сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў Любліншчыну. Правёў ён там сустрэчу з калектывам фабрыкі грузавікоў і з партыйным актывам Люблінскага ваяводства.

### БУДЗЕ НОВАЯ РАДЫЁСТАНЦЫЯ

7 жніўня г.г. член Палітычнага бюро, сакратар ЦК ПАРП Стэфан Альшоўскі наведаў будову новай радыёстанцыі Польскага радыё ў Гомбіне.

Новая радыёстанцыя дазволіць атрымаць добрую якасць радыёперадач на доўгіх хвалях па ўсёй нашай краіне.

Новая радыёстанцыя атрымае 640-метровую мачту і будзе расходваць столькі электраэнергіі, як 30-тысячны горад.

### НОВЫЯ ПАСТАНОВЫ

Прэзідыум урада на сваім чарговым пасяджэнні 6 жніўня г.г. вырашыў пабудаваць цеплацэнтралю «Варшава-Воля», разбудаваць чыгуначны перагрузачны пункт Гурка—Мэдыка—Журавіца. Пабудова гэтага роду аб'екта пачнецца яшчэ ў гэтым годзе. Цеплацэнтраля павялічыць колькасць коксавага газу на працягу наступных гадоў, а таксама можна будзе лепш выкарыстоўваць непатрэбныя для прадпрыемства машыны, матэрыялы, а таксама гатовыя вырабы.

### «СОПАТ — 71»

Ужо незадоўга пачнецца XI Міжнародны фестываль песні ў Сопаце. Возьме ў ім удзел больш 50 спевакоў і вакальных калектываў з 25 краін.

### МІЛЬЁН ВЕЛАСІПЕДАЎ

Мільён веласіпедаў выпрадукуе ў гэтым годзе быдгашчскі «Ромэт». Варта адзначыць, што быдгашчскія веласіпеды купляюць 42 краіны. У гэтым годзе пачалі купляць нашыя веласіпеды Японія, Аўстралія і Новая Зеландыя. Найбольш польскіх веласіпедаў купляюць ЗША і Канада.

### ЗВЫШПЛАНАВА

Ад пачатку гэтага года шахцёры ўтрымліваюць высокі тэмп работ. У ліпені горная прамысловасць даставіла краіне звышпланава 60 тысяч тон каменнага вугалю. Шахцёрскія калектывы выканалі ўжо на 75 працэнтаў свае гадавыя абавязацельствы.

### ПАВЕДАМЛЕННЕ ГУС

Як паведамляе ГУС, у чэрвені г.г. пагалоўе быдла налічвала 11,1 мільёнаў штук і павялічылася на 2,1 працэнтаў у параўнанні з аналагічным перыядам у мінулым годзе.

Пагалоўе свіней налічвала 15.241,5 тысяч штук і павялічылася на 1795 тысяч, г.зн. на 13,4 працэнтаў. Такога павелічэння дагэтуль рэдка ўдавалася дабівацца.

### «СТАРЫ»

Нашыя грузавікі «Стары», якія выпускае фабрыка ў Кельцах, нічым не ўступаюць самаходам, прадукаваным замежнымі фірмамі. Зараз іх сярэдні прабег без галоўнага рамонту складае ў суме 115 тысяч кіламетраў.

Калектыў келецкай фабрыкі самаходаў у далейшым робіць намаганні адносна іх мадэрнізацыі. (яц)

## ВАЯВОДСТВА

### ЖНІВО

Ужо каля месяца на палях Беласточчыны, амаль у трапічных умовах, ідзе жніво. Гарачыня і суша значна прыспешылі даспяванне, таму ўсе віды збожжа былі гатовы да жніва амаль разам. Значную дапамогу індывідуальным сялянам аказалі ПОМ-ы і машынныя базы.

У мінулым тыдні I сакратар Ваяводскага камітэта партыі А. Лашэвіч наведаў жняцоў у паўночных паветах нашага ваяводства. I сакратар цікавіўся працай у ПГР-ах Імёнкі, Норы і Барткі, іх сацыяльна-бытавымі ўмовамі і перспектывамі развіцця і павелічэння ўраджаю з гектара.

У ПГР-ы у Ледзы А. Лашэвіч цікавіўся, як працуюць новыя польскія камбайны тыпу «Бізон». Гэта першыя яшчэ камбайны гэтага тыпу. Камбайнёры Ян Невядомскі і Ян Русінэк сцвердзілі, што гэтыя машыны нават у цяжкіх умовах працуюць у два разы хутчэй, чым «Вістулы», ды і ў абслугоўванні прасцейшыя.

I сакратар наведаў таксама ферму, дзе ПГР гадуе букаты і прадае большасць з іх у найвышэйшы клас «экстра».

### МОЛАДЗЬ У ЖНІВО

Усю Беласточчыну ахапіла акцыя «Кожны колас на вагу золата». Паўтысячы гурткоў ЗМВ аб'явіла сваю гатоўнасць прыняць удзел у жніве. Адны працуюць пры кашэнні, абмалотах і звозцы збожжа, іншыя рамантуюць машыны. Дзяўчаты грамадскім чынам апякуюцца дзецьмі, калі ўсё дарослыя ў полі.

Маладзёжныя групы заапекаваліся збожжам старых і адзінокіх людзей. Напрыклад, у Боцьках Бельскага павета гурток ЗМВ памог у жніво Анне Юзвовіч і В. Дэрэкайле. Гурток у Кальніцы дапамог А. Бобрусу. Такіх прыкладаў можна было б прывесці значна больш. У жніво ўключыліся таксама вучні сярэдніх школ і студэнты, якія прыехалі на канікулы да бацькоў.

### НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ

Нягледзячы на вельмі цяжкія ўмовы працы ў такія гарачыя дні на фабрыках, рабочыя прыкладаюць усе намаганні, каб не зніжаць тэмпаў вытворчасці. Напрыклад, на Фастаўскім камбінаце ў цэху апошняй апрацоўкі (г. зв. выканчальні) тэмпература ў цяню была 40°. Адміністрацыя камбіната пастаралася, каб як найбольш аблегчыць рабочым працу. У цэхах былі пастаўлены вёдры з лёдам, працуюць на тры змены сатуратары, якія вырабляюць газаваную ваду. На поўную сілу працуюць вентылятары.

I рабочыя камбіната, нават у такіх трапічных умовах, выконваюць і перавыконваюць планы. За 7 месяцаў гэтага года зроблена ўжо 40 тысяч метраў тканіны звыш плана.

### У БУДАЎНІЦТВЕ

Вельмі дакучае гарачая пагода будаўнічым. Каб хоць трохі аблягчыць сваю працу, рабочыя пачыналі працу ад 4-ай гадзіны раніцы. Рабочыя атрымалі цёмныя акуляры і белыя шапкі. Шмат увагі ўдзяляецца таму, каб была дастатковая колькасць газаванай вады і іншых напіткаў. (яч)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 15.VIII.**

8.45 Program. 8.50 TV Kurs Rolniczy. 9.25 „Przypominamy, radzimy". 9.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.55 „Rozśpiewane wakacje" — film fab. NRD. 11.30 „Pamiątka z Białorusi" („W świecie sztuki"). 12.00 „W starym kinie". 13.00 Dziennik. 13.15 „Przemiany". 14.00 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w lekkoatletyce (Helsinki). 17.00 „Gra Orkiestra TV Katowice. 17.20 PKF. 17.30 „Pod godłami dawnych aptek" („Kraków mało znany"). 18.00 TV Spotkania Teatralne. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Dzisiejsza młodzież" — film fab. prod. włoskiej. 21.35 Magazyn Sportowy. Kronika Mistrzostw Europy w lekkoatletyce.

**Poniedziałek 16.VIII.**

16.45 Program. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Opowieść o zwierzętach". 17.25 „Echo stadionu". 18.05 „Kino Filmów Animowanych". 18.30 „Konie rasy wielkopolskiej" — film pol. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 VIII TV Festiwal Teatrów Dramatycznych: M. Gorki — „Barbarzyńcy". 21.35 „10 razy Sopot". 22.20 Dziennik.

**Wtorek 17.VIII.**

10.00 „Dama z tramwaju" — film fab. czechosłowacki. 11.20 Przerwa. 16.45 Program. 16.50 Dziennik. 17.05 „Jak ubrać Polaka". 17.30 „Gołuchów" — film pol. 17.45 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Sensacji: „Niebezpieczne ścieżki". 21.20 „Czy zmierzch ery Gutenberga". 21.50 „Siedmiu młodych" — program rozryw. jugosł. 22.20 Dziennik.

**Środa 18.VIII.**

10.00 „Randall i duch Hopkirka" — film ang. 10.50 Przerwa. 16.45 Program. 16.50 Dziennik. 17.00 „Teleferie". 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Perspektywy techniki". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.55 „Randall i duch Hopkirka" — film ang. 20.45 „Światowid". 21.15 „10 razy Sopot". 21.50 PKF. 22.00 „Stoczniowcy nad Wisłą" — rep. 22.30 Dziennik.

**Czwartek 19.VIII.**

16.45 Program. 16.50 Dziennik. 17.00 „U sołtysa w Wiśniewie". 17.30 TV Kurier Białostocki. 17.45 „Poligon". 18.15 „Wysychająca arteria". 18.45 „Przegląd muzyczny". 19.15 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Teatr Sensacji: „Niebezpieczne ścieżki". 21.00 „Volare" — film fab. wł. 22.40 Dziennik.

**Piątek 20.VIII.**

10.00 „Volare" — film fab. wł. 11.40 Przerwa. 16.45 Program. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci. 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 Film rozrywkowy „Piosenki w metalowej oprawie". 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Spotkanie z Jonaszem Koftą". 20.30 „Kraj". 21.10 Teatr Telewizji na świecie: „Inferno" — widowisko Telewizji Słowackiej. 22.35 Dziennik.

**Sobota 21.VIII.**

10.00 „Ostatni kwadrans" — film fab. franc. 11.40 Przerwa. 16.10 Program dnia. 16.15 Program tygodnia. 16.35 „Przypominamy, radzimy". 16.50 Dziennik. 17.00 „Grenada" — film dok. radz. 18.10 „Spotkania z przyrodą". 18.35 „Leningradzkie melodie". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Ostatni kwadrans" — film fab. franc. 22.00 Dziennik. 22.15 Wiadomości sportowe. 22.30 „Uwaga! zaczynamy!" („Televariete").

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 13 sierpnia**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla dzieci. 8.40 Film dla dzieci. 10.00 Nowiny. 11.45 Program. 11.50 Nowiny. 12.00 Święto sportu. 14.00 Dla młodzieży szkolnej. Otwarcie spartakiady. 15.30 Opowiadanie o pracy i odpoczynku uczniów. 15.50 Panorama nowin. 16.15 Ekran dla dzieci. 16.25 Komentarz dnia. 16.45 Spotkania muzyczne. 17.20 Film o kobietach. 19.00 Czas. Program informacyjny. 19.30 Program literacki. 20.05 Śpiewa Lidia Hołuszkina. 20.25 Program sportowy z Helsinek. 21.40 Nowiny.

**Sobota, 14 sierpnia**

7.00 Program. 7.05 Gimnastyka. 7.30 Nowiny. 7.40 Koncert. 8.40 Program dla dzieci. 9.10 „Zdrowie". Program popularnonaukowy. 9.40 Przemówienie przewodniczącego komitetu do spraw sportu. 9.50 U nas w gościnie najlepsi sportowcy. 10.10 Koncert życzeń. 10.31 Nasi współcześni ludzie. 10.50 Film dla dzieci. 12.20 Przegląd międzynarodowy. 12.50 Konsultacja techniczna o telewizorach. 13.10 Przyszłość Moskwy. 13.40 Towarzysz — piosenka. 14.25 Almanach telewizyjny. 15.00 Piłka nożna. 16.45 Program sportowy z Helsinek. 17.45 „Żywy trup" — film. 19.00 „Czas". Program informacyjny. 19.50 Przygody Gustawa — film. 19.40 Wywiad z I sekretarzem gorkomu w Mińsku. 20.10 Piłka nożna. 21.00 Wieczorne melodie. 21.45 Nowiny.

**Niedziela, 15 sierpnia**

7.00 Program. 7.05 Gimnastyka. 7.15 Nowiny. 7.30 Kiosk muzyczny. 8.00 Sportowy program dla młodzieży szkolnej. 9.00 Program dla młodzieży. 9.45 Program młodzieżowy „Ja z 70-ch". 10.20 Ekran dla dzieci. 11.00 Pracujący wsi. 11.30 W świecie artystów. 12.00 Program międzynarodowy. 12.30 Film dla dzieci. 13.35 Program wojskowy. 14.40 Program sportowy z Helsinek. 16.50 „Żywy trup" — film II cz. 19.00 „Czas". Program międzynarodowy. 19.30 „Marysia i Napoleon" — film. 21.10 Nowiny.

# ЗБОР У ОРЛІ

Старажытнасці — дарагі след дзейнасці нашых продкаў. Колькі іх, parаскіданых і забытых, на нашай Беластоцкай зямлі! Возьмем хоць бы Орлю — сёння малое мястэчка ў Бельскім павеце. У цэнтры мястэчка, збоку ад колішняга рынку, стаіць велізарны будынак «бажніцы» — як яго завуць тут. Занядбаны ён і запушчаны. Арлянцы кажуць нават, што ўночы ў ім нешта страшыць. А чым ён з'яўляецца на самай справе? І тут неабходна звярнуцца да гісторыі Орлі і яе ваколіц.

Вялікі князь літоўскі Аляксандр у 1507 годзе надае жарэб'і Кашалёўскія, Вярвецкія і Тапчыкальскі лес пісару ваяводы троцкага Яську Іванавічу. Але жыхару Трокаў, відаць, не прыйшлося да спадобы наданне ў аддеглым Падляшшы. Ён памяняў Кашалі і Вервечкі на двор у Троках з Богушам Богавіцінавічам. Богавіцінавічы былі старажытным беларускім родам гербу Карчак. Гэты ж Богуш Богавіцінавіч памяняў яшчэ і свой маёнтак Стацковічы каля Слоніма на вёску Тапчыкалы з дваранінам Іванам Рэзанцам. І такім чынам ў гадах 1510—1512 Богуш Богавіцінавіч стварыў абшырную воласць арлянскую. Ён жа ў 1527 годзе купляе ад Тэнчынскіх Сямяцічы і грунтоўна замацоўваецца на Падляшшы. Аднак не на доўга, бо ў 1539 годзе ўсе гэтыя маёмасці пераходзяць у пасагу за дачкой Богуша — Аннай у рукі Тэнчынскіх. У 1546 годзе Орля належыць да Станіслава Тэнчынскага, старасты бельскага, але ўжо ў 1577 годзе ёю ўладаюць князі слуцкія з вёскамі Кашалі, Вервечкі, Тапчыкалы, Шэрні, Клужкі, Крываволя (сённяшнія Крывяцічы), Топарава, Рудолты (сённяшнія Рэдуты), у якіх разам налічваецца 180 валок зямлі з звыш дзвюма тысячамі жыхароў, 13 корчмамі (!) і 5 млынамі. У 1585 годзе Орля разам з вёскамі, якія да яе належалі, пераходзіць ва ўладанне Радзівілаў. Магутны і надта ж уплывовы гэты род беларуска-польскіх магнатаў садзейнічаў хуткаму развіццю Орлі. Пры князі Янушы Радзівіле ў 1634 годзе Орля атрымоўвае гарадское самакіраванне па магдэбургскаму праву і становіцца горадам. Вось іменна ў канцы XVI стагоддзя (г. зн. недзе каля 1590 года) Радзівілы — вядомыя прыхільнікі і апекуны кальвінскага веравызнання ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім — узводзяць сакральны (г.зн. прадназначаны для малебнаў) будынак велізарных, як на тыя часы, памераў, упрыгожваюць і абсталёўваюць яго знутры. У цяжкія часы ганенняў па ўсёй Рэчы Паспалітай на дысідэндаў (г.зн. веруючых не каталіцкага веравызнання) ў Орлі ў гэтым жа будынку пад кіраўніцтвам князя Януша Радзівіла і яго жонкі — малдаванскай княжны —у 1644 годзе адбыўся генеральны сінод (інакш: з'езд) дысідэнтаў Польшчы і Вялікага княства Літоўскага.

Пасля смерці Януша Радзівіла ў 1655 годзе ў Орлі не стала абаронцы некатолікаў. У хуткім часе дысідэнцкі зборцарква быў прададзены нашчадкамі князя Януша мясцоваму яўрэйскаму грамадству. Яно перабудавала збор на сінагогу. Пры гэтым апрача невялікіх пераробак, якіх патрабавала старазаконнае веравызнанне, нічога новага не было ўнесена ў будынак. У асноўным ён захоўваўся такім жа, як пры пабудове.

У пазнейшы час, ужо ў XIX стагоддзі, Орля перайшла ў рукі князёў Вітгенштэйнаў — родзічаў Радзівілаў.

Мястэчка перажыло трагедыю дзвюх сусветных войнаў.

Сёння ж Орля — мястэчка з нядрэннай прамысловасцю (цагельня, кафлярня, прадпрыемства будаўнічых прэфабрыкатаў, ГС і г.д.) і значнымі перспектывамі на будучыню (ёсць намеры пабудаваць тут камбінат па вырабу цэглы). Спакойная, укрытая садавінай мясціна, у якой жывуць працавітыя і шчырыя людзі. У размове з імі мне давялося пачуць іх разумнае пажаданне, каб улады заапекаваліся старажытным зборам-царквой, рэстаўравалі яго і прадназначылі на грамадскі дом культуры — установу, якая вельмі ж патрэбная і арлянскай амбітнай моладзі і статнаму старэйшаму пакаленню арлянцаў. А што на гэта аддзел культуры ВРН у Беластоку? Здаецца, што гэта самы лепшы спосаб ушанавання спадчыны, пакінутай нам таленавітымі дойлідамі XVI стагоддзя. (мг)



*Знешні выгляд збору ў Орлі. XVI стагоддзе.*



*Вязь столі ў зборы ў Орлі. На калонах відаць арнамент, зроблены ў XVI—XVII стагоддзях.* *Фота: Цаф — Сянько*

# Дажынкі ў фальклоры



Дажынкі — адзін з важных этапаў у працавітым годзе селяніна-беларуса. Заканчваецца збор ураджаю, над якім ён і ўся яго сям'я працавалі цэлы год. Таму спакон веку і ў рэштковай форме па сённяшні дзень дажынкі ўшаноўваюцца арыгінальнымі дзеяннямі-абрадамі і песнямі.

Да колішніх абрадаў, што ўжо заніклі на Беласточчыне і аб якіх толькі час ад часу ўспамінаюць старыя людзі, належаў звычай ушанавання апошняга снапа і найлепшай жнейкі. Звычайна апошні сноп жыта (пры гэтым варта заўважыць, што дажынкі спраўляліся толькі на жыце, а не на іншым збожжы) зжыналі па жмені і складалі ўсе жанцы з данай сям'і, упрыгожвалі кветкамі і гронкамі рабіны, ды накіроўваліся з ім, спяваючы, дадому. Везла або несла апошні сноп найлепшая жніца-«пастацянка»[1]), якая на галаве мела вянок з кветак і калосся, а ў руках — свой займісты серп. Дома сноп ставілі ў ганаровым месцы — у покуце.

Абрад, які захаваўся і па сённяшні дзень на Беласточчыне, — гэта «кветка» або «перапёлка». У канцы поля пры дажынках пакідаюць невялікі кавалачак жыта, звязваюць яго разам уверсе каля каласкоў, каласкі зрэзваюць, звязаную салому выполваюць дакладна з пустазелля і прыбіраюць кветкамі, гронкамі рабіны. Сёння «кветка» — толькі прыгожы элемент дажынак, калісьці ж яе ставілі для ўшанавання спарыні — добрага бога ўраджаю, каб ён і на наступны год спаслаў багаты ўраджай. Пры гэтым калісьці па заканчэнні жанцы качаліся па пожні, прыгаворваючы: «ніўка, ніўка, аддай маю сілку», каб такім чынам вярнуць сабе сілу і здароўе, патрачаныя пры жніве. Сёння ж на Беласточчыне жанцы адзін другога абліваюць вадой — «каб на другі год жыта было ядраное» (Беластоцкі павет).

Як кожнаму абраду на Беласточчыне, таксама і дажынкам спадарожнічаюць песні і прыпеўкі. Галоўным іх матывам з'яўляецца радасць і задавальненне сабраным ураджаем — «плёнам». Чуюцца ў іх і адгалоскі даўно мінулых часоў паншчыны і наракання сялян на цяжкую паднявольную працу ў прыгоне.

У нашого пана діво,
Што за міесэцём жніво;
Пры зоры снопы носят,
Пры свіечы вэчэрают
І пана проклінают:
«Дай ёму, божэ, жону
Заблудовску жыдовку,
Дай ёму, божэ, діеті,
Коб нэ міеў дэ подіеті».

*Кленікі, Гайнаўскага павета.*

Знаходзім у іх і насмешку над скупымі гаспадарамі.

Наша пані домуе,
Наша пані домуе —
Нам вэчэру готуе.
Ізварыла вороб'я
Ізварыла вороб'я
На сім столув діліла
Ештэ, жэньчыкі, ештэ,
Коб голодны нэ былі
Коб голодны нэ былі,
І коб нас нэ суділі;
І коб жыто дожалі
І нам пісні співалі.

*Ваколіцы м. Орлі, Бельскага павета.*

Часам у песні ўраджай увасабляецца ў жывую постаць і выказвае свае пажаданні.

Просылосё жыто, просылосё жыто
Пана господара:
Пане господару, пане господару,
Зожні мэнэ в пору.
Зожні мэнэ, зожні, зожні мэнэ, зожні,
До стодолонькі звэзі
Бо я вжэй настоялось, бо я вжэй настоялось
З дождж ыком дробнюсенькім
З дождж ыком дробнюсенькім,
з дождж ыком дробнюсенькім,
З вітёрком буйнюсенькім
А тэпэр хочу спокою, тэпэр хочу спокою
Лежаті в стодолі в покою.

*Запісана ад жанчыны 50 год у Малінніках, Бельскага павета.*

Часцей за ўсё на дажынках спяваюць прыпеўкі, насычаныя гумарам і весялосцю. Дастаецца ў іх перш за ўсё гаспадару.

Ой, жніся, жніся, муой загуоньцю шырокі,
Хто тэбэ орав — Ясенько крывобокі.
Ой, жніся, жніся, муой загуоньцю гранясты,
Хто тэбэ орав — Ясенько колдунясты.

*Ад Параскевы Арцямюк, в. Зубава, Бельскага павета.*

Або выказваюцца пажаданні здароўя жанцам, гаспадару і багатага ўраджаю на наступны год.

Дожалі жыто, дожнэм пшэныцю.
Поставімо пэрэпэліцю.
Плён нэсэм, плён, плён, нэсэм, плён
Нашому пану в дуом.

*З ваколіц Кляшчэляў, Гайнаўскага павета.*

Ой, чыя то волока, ой, чыя то волока
Довгая і шырока.
На юй жэньчыкі жалі, на юй жэньчыкі жалі
Сэрпікі поломалі.
Сэрпікі золотэнькі, жэньчыкі молодэнькі;
Сэрпікі із Кракова, сэрпікі із Кракова
Жэньчыкі із Дуброва.

*Запісана ў вёсцы Новаберазова, Гайнаўскага павета.*

Дажалі жыто аж да граніцы,
Не жалуй, пане, піва шкляніцу.
Плён нясём, плён
Нашаму пану ў двор.
Запрагай, пане, сіва коня,
Едзь па музыку аж да Кракова.
Плён нясём, плён
Нашаму пану ў двор.

*Ад Аляксандры Ляўкоўскай, в. Мастаўляны, Беластоцкага павета.*

А бодай здоровы плён пленоваті,
На прышлы годік той дочакаті.

*З. г. Бельск Падляшскі.*

Абрад дажынак і песні, якія звязаны з ім, сведчаць аб тым, што беларускае сялянства заўсёды патрапіла ўпрыгожыць сваю цяжкую працу, знайсці ў ёй паэзію і з аптымізмам ды гумарам аднесціся да навакольнага свету.

*Мікалай Гайдук*

---

[1]) «Пастацянкай» называлі калісьці найлепшую жанчыну-жнейку, якая жала паперадзе і вяла за сабою (давала прыклад) іншых жанцоў. Назва паходзіць ад слова «постаць» — г. зн. такая частка жытняй нівы, якую займае, жнучы, жнейка.

*Фота : Я. Цялушэцкі*

# ШЛЯХАМ ПЕРАМОГ

Спорт у беларускім ліцэі ў Гайнаўцы мае сваю традыцыю. Вялікае ажыўленне ў гэтай галіне наступіла ў 1963 годзе, калі заняткі па фізкультуры пачаў весці настаўнік Мікалай Врублеўскі. Утварылася тады баскетбольная мужчынская каманда, якая праз год здабыла першае месца ў ваяводскіх розыгрышах. Найлепшымі спартсменамі ў баскетбольнай камандзе былі: Мікалай Раманчук (які зараз заканчвае вучобу ў вайсковай вышэйшай школе), Кастусь Болтрык (зараз выпускнік вышэйшай школы па фізкультуры). Спортам пачалі займацца таксама дзяўчаты-ліцэісткі. Выбралі яны валейбол. Найлепшымі спартсменкамі ў гэтай галіне спорту ў беларускім ліцэі былі: Тамара Шыманская, Вера Аляксеюк, Вольга Заброцкая і Вера Тыхонюк. Ад 1967 года жаночая каманда становіцца моцнай камандай. Найбольш таленавітымі спартсменкамі былі тады: Ліля Лясота (зараз студэнтка Варшаўскага ўніверсітэта) і Галіна Анхімюк (зараз працуе ў Павятовым спартыўным аб'яднанні ЛЗС у Гайнаўцы). У 1969 годзе жаночая каманда атрымала першае месца ў ваяводстве. Вялікая заслуга ў гэтым была перш за ўсё тагачасных ліцэістак Ірэны Стоцкай, Валі Дубко і Крыстыны Сегень. У апошнім навучальным годзе (1970/71) і зараз у склад жаночай каманды ўваходзяць наступныя асобы: Ірэна Янель, Галіна Лясота, Яўгенія Грыгарук, Зіна Хілімонюк, Вольга Саевіч, Ірэна Леўчук, Люба Андрэюк, Зіна Барташэвіч, Валя Маркевіч, Марыя Тэтэрка і Ірэна Вілюк. Члены гэтай каманды з'яўляюцца вучаніцамі III і IV класаў. У пачатку мая г.г. жаночая спартыўная каманда з беларускага ліцэя ўдзельнічала ў розыгрышах са зборнай камандай Гродна. За мяжою нашыя спартсменкі прайгралі, але ў другой сустрэчы, якая адбылася ўжо ў Гайнаўцы, — выйгралі з лікам 3:2. 18 ліпеня г.г. закончыўся ў Гайнаўцы IV турнір па валейболу на Кубак Белавежскай пушчы. Здабылі яго ліцэісткі з беларускага ліцэя, якія перамаглі каманду «Крэсовію» з Сямяціч і каманду «Каляровыя» з Гайнаўкі. У гэтай сустрэчы выступалі яшчэ каманды з Беластока і з Монек.

Як бачым, жаночая каманда з беларускага ліцэя крочыць зараз шляхам перамог. Жадаем ёй поспехаў. І ў сваю чаргу, ад імя спартсменак перdesigned дырэкцыі ліцэя і непасрэднаму трэнеру мгр М. Врублеўскаму сардэчныя словы падзякі за вялікую ўвагу і дапамогу. Варта адзначыць, што дырэкцыя школы, як і апякун каманды з боку педагагічнага савета, робяць усё, каб захаваць добрыя традыцыі спорту ў сваёй школе.

(яц)



*Канікулы.*
*Фота Цаф — Сянько*

# АД АГНЮ І ЗЛОГА ПАВЕТРА...

Так было даўней. Сёння толькі яшчэ на старых прыдарожных крыжах можна прачытаць гэтую запаветную просьбу нашага люду. Цяпер сяляне ўжо ведаюць, што найлепшым абаронцам ад злога павертра з'яўляецца дасканалае лякарства, што хутчэй ад малітвы дапаможа лекар.

А што можа ўсцерагчы ад агню?

— Толькі развага, развага і асцярожнасць, — гэта словы каменданта Ваяводскай камендатуры супрацьпажарнай стражы, палкоўніка Мар'яна Цясельскага. За ім ужо звыш 20-гадовы вопыт у барацьбе з вогненнай стыхіяй.

— Амаль ад заканчэння апошняй вайны, — гаворыць ён, — вядзем у вясковым асяроддзі пастаянную раз'яснільную працу, гаворым аб прычынах пажараў і аб затратах ад іх. Няма ўжо несвядомых гаспадароў, якія не ведалі б, як усцерагчыся ад агню. Ёсць толькі абыякавасць. Бо паслухайце: на працягу першай палавіны 1970 года здарылася на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства 340 пажараў, у выніку якіх пайшло з дымам рознае дабро вартасцю ў 17 мільёнаў 200 тысяч злотых. У гэтым паўгоддзі аднатавалі мы ўжо на 100 пажараў больш, а затраты павялічыліся на звыш 6 мільёнаў злотых. А гэтыя ж мільёны залатовак як жа нам цяпер патрэбны ў гаспадарцы!

Гарыць лес, гарыць сенажаць, а найчасцей гараць сялянскія сялібы. Вось яшчэ адно статыстычнае, як жа трывожнае, супастаўленне:

| Павет | Колькасць пажараў 1970 г. (цэлы) | паўгоддзе 1971 г. |
|---|---|---|
| Бельск | 31 | 21 |
| Гайнаўка | 33 | 20 |
| Дуброва | 12 | 10 |
| Саколка | 36 | 30 |
| Сямяцічы | 37 | 29 |

Найбольш спрыяльны для «чырвонага пеўня» аказаўся месяц ліпень. Спякота, людзі змучаныя працай, стомленыя. А вынік?

25-га ліпеня — 7 пажараў,
26-га ліпеня — 7 пажараў,
27-га ліпеня — 14 пажараў.

Разам да 28-га ліпеня занатавана ў Беластоцкім ваяводстве аж 117 пажараў. Пад вёскай Карчэва ў Дуброўскім павеце шмат часу гарэў торф. Агонь ахапіў амаль 100 гектараў сенажаці. Становішча складалася ўжо вельмі сур'ёзнае. Камендант Цясельскі расказвае:

— Пажарнікі не маглі туды дабрацца са сваімі цяжкімі прыладамі, бо не дапускала дрыгва. Не хапала таксама на месцы вады. Ды скажу па шчырасці, што злосць усіх нас там брала. Гарэла аднаасобніцкае балота, а гаспадары збіраліся і абыякава ўзіраліся на агонь і пажарнікаў, як на нейкае відовішча. У гэтым жа павеце, у раёне вёскі Выжарнае, агонь ахапіў амаль 100 гектараў сялянскага лесу. І зноў пажарнікі не атрымалі належнай дапамогі ад мясцовага насельніцтва, ад уласнікаў гэтага лесу. Прыйшлося прасіць дапамогі ў салдат з Падляшскай ваеннай часці. Яны не адмовіліся, хаця да месца пажару мелі вельмі далёка.

Непрыемна пісаць пра такую абыякавасць да грознай стыхіі. Што ж, здараецца. Вёз гаспадар з поля высушанае жыта. Выгодна рассеўся на фуры, закурыў папяроску, а пасля недакурак швырнуў за сябе і сам спакойна ехаў далей. Каб шафёр, які выпярэджваў яго, не крыкнуў яму: *«Эй ты, жыта гарыць!»*, наўрад ці змог бы гаспадар выратавацца ад агню. Ледзь паспеў выпрагчы каня. Распаліла гаспадыня агонь пад плітой і, пакінуўшы адкрытыя дзверцы ў печцы, пайшла з хаты. Праз 15 мінут дом стаяў у агні. Рыхтавалася маладзіца на фэст у Рагачах (Сямяціцкі павет). Адпрасавала сабе святочную сукенку і пакінула ўключаны электрычны прас. Калі вярнулася з фэста, са святкавання «Антонія», хаты ўжо не было. Пайшлі дарослыя ў поле. Дома застаўся 6-гадовы хлапчук. Для забавы расклаў агонь на таку ў клуні. Згарэла ў вёсцы 76 будынкаў.

Камендант Цясельскі гаворыць:

— На Беласточчыне дзейнічаюць 1400 атрадаў добраахвотнай супрацьпажарнай стражы. Згуртоўваюць яны 28 тысяч чалавек. Гэта найчасцей такія ж самыя сяляне, як і іх суседзі. Толькі яны ніколі не бываюць абыякавымі да чужога няшчасця. Калі толькі пачуюць трывожны гудок, спыняюць найпільнейшыя заняткі. Іх ахвярнасць выратавала ад агню шмат вясковага дабра. Дзякуй ім за гэта..

Добра, што нашы беластоцкія пажарнікі спраўна дзейнічаюць і маюць чым гасіць пажары. Аднак яшчэ лепш было б, калі б яны не мусілі агню гасіць, каб пажары не здараліся так часта. І гэта залежыць ад саміх сялян.

*М. Нурэцкі*

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізвы старонкі на дроцікі або шнурочак.*

● БІБЛІЯТЭЧКА „НІВЫ" ● ВАСІЛЬ БЫКАЎ ● ПРАКЛЯТАЯ ВЫШЫНЯ ●



— Не змываюся, а на законных падставах адпраўляюся ў тыл. Я таксама паранены.

— Давай, дуй! — проста сказаў Ананьеў.

— І я табе не зайздрошчу. Усё ж перш чым што выкінуць — трэба падумаць.

— Што я выкінуў!? — зноў вызверыўся Ананьеў. — Чумака выслабаніў! У цябе не спытаўся. Сам зрабіў, сам і адказваць буду. Паняў?

— Няма чаго панімаць, — ужо зусім бясстрасна сказаў Грыневіч. — Усё і так ясна.

— А мне напляваць! Я камандзір роты. А вунь немцы. Бачыў?

Грыневіч уздыхнуў.

— Знаеш, мала храбрасці ў атаку хадзіць. Трэба яшчэ што-колечы і разумець.

— Што разумець? Трэба чалавекам быць.

— Да? Ну-ну! Давай! Толькі ці доўга пабудзеш...

Гэта быў ужо скандал. Яны яўна і, відаць, назусім размяжоўваліся ў сваім канфлікце, толькі я, прызнацца, перастаў разумець, у чым справа. Было абсалютна невядома, чаму нампаліта так занепакоіў Цвяткоў, чаму яго нельга было адпраўляць у тыл? Нешта недагаворанае пагрозліва прысутнічала між імі, аб чым, мяркуючы па ўсім, заўжды памятаў Грыневіч і што толькі зараз пачаў разумець Ананьеў. Я дужа добра ведаў абодвух, і цяпер можа не столькі разгневаны выгляд ротнага, колькі безнадзейна прыціхлы нампаліт сведчыў, што праўда, мабыць, за Грыневічам. Я не мог перасіліць у сябе панылай скрухі, якая ўсё большала, і з-пад ілба раз-пораз пазіраў на ротнага.

— Словам, я пайшоў, — сказаў Грыневіч. — Жадаю поспеху. Хоць, які там поспех, — дадаў ён. — Прапашчая рота.

Ён коратка махнуў рукой, і налягаючы на здаровую нагу, пайшоў уздоўж насыпу ў тыл за пагорак.

Ананьеў застаўся на насыпу ў той жа позе: шырока расставіўшы ногі ў дашчэнту выпацканых ботах, нізка апусціўшы ўскудлачаную галаву. Здавалася, ён нешта разглядвае ў мокрай траве, часам перабіраючы на халяве бруднымі пальцамі. Але ён не разглядваў, наогул наўрад ці ён заўважаў, што наўкола, — ён думаў. Тая грубаватая самаўпэўненасць, якая часам усплывала ў ягоных вачах калі ён сварыўся з Грыневічам, цяпер канчаткова мінулася, саступіўшы месца труднай, нязвыклай для яго засяроджанасці. Я мала што разумеў у ягоных перажываннях, хіба здагадваўся пра што-колечы, але я кожным сваім нервам адчуваў ягоную бяду, і мне самому было пакутна.

З нізкага, хмарнага неба зноў замжыла сцюдзёным дажджом, хлопцы на раскапаным адхоне пачалі нацягваць над акопчыкамі свае нявысахлыя яшчэ палаткі. У мяне ж палаткі не было, камсастаўская накідка Ананьева таксама недзе прапала, мы патроху моклі, але камроты на гэта не звяртаў увагі. Я падумаў, што, напэўна, трэба ісці, ён жа мяне на світанні ўжо выпраўляў з роты, але



слізгаючы, утрох яны пайшлі хутчэй. Ананьеў зышоў з адхону і туга сцяў скіўцы: цяпер ужо не было сумнення — нампаліту папала.

Яны апусцілі палатку ля ног камандзіра роты, Шапа зморана ссунуў з потнага лба мокрую шапку, двое ягоных памочнікаў засмучана стаялі насупраць.

— Вось, — сказаў Шапа. — У галаву. І каску ўшчэнт.

— Куляй?

— А чорт яго... Разрыўной, пэўна.

Жаўтлява-белы, неяк дзіўна паспакайнелы твар нампаліта з насунутай на вочы павязкай раптам крануў непакой.

— Ну што, камандзір? — з грубаватай спачувальнасцю запытаў камроты.

— Ось, не атрымалася... — стрымліваючы стогн, сказаў нампаліт. — Не прайшоў.

Ананьеў прысеў на кукішкі.

— Баліць?

— Мусіць, унутры... — выціснуў паранены. — Дрэнь мая справа.

Камандзір роты падняўся.

— А ну, уладкуйце лейтэнанта, каб зручней было...

Шапа збегаў да хлопцаў, прынёс нечую ватоўку, хуценька разаслаў яе на мокрай траве, пасля ўчатырох мы засцярожліва паклалі на яе Грыневіча і дбайна ўхуталі яго палаткай. Пад голаў загнулі канец рукава.

— Дрэнь справа, — аблізваючы ссінелыя вусны, ціха сказаў Грыневіч. — Ты не крыўдуй, Косця. Сам ведаеш...

— Сволачы! — вылаяўся камандзір роты і крута адвярнуўся. Ён кінуў погляд на вышыню, якая ўсё болей ахутвалася дажджлівым туманам, зірнуў на пагорак, абстраляны буйнакаліберным. У ажывелых вачах камроты з'явіўся нейкі намер, і я абнадзеена падумаў, што, мабыць, цяпер ён скарыстае магчымасць адвесці роту назад на пагорак. З вышыні, здаецца, нас не заўважаць. Толькі Ананьеў маўчаў, і я не мог гэта падказаць яму — такога роду падказак ад падначаленых ён не прымаў.

— Дай закурыць!

Я не курыў, ён ведаў гэта і ніколі не звяртаўся да мяне па курыва, але цяпер ён, мусіць, проста забыўся, хто ля яго. Праўда, ён тут жа зразумеў сваю памылку і павярнуў голаў да Шапы.

— Ты, нясі закурыць...

— Калі ласка!

Баец увішна падбег да камандзіра роты і, стаўшы на калена, нацярушыў з бушлата трохі махоркі. Затым дастаў і паперы. Ананьеў закурыў, унікаючы нашых стрымана запытальных позіркаў.

— Пакліч Піліпенку!

Мы абодва памкнуліся бегчы, але старшы лейтэнант жэстам вярнуў мяне на месца.

— Шапа, ты!

Шапа рынуўся з адхону, а камандзір роты яшчэ раз, ужо болей уважліва паглядзеў на затуманеную вышыню. І раптам ён павярнуўся да ўзвода:

— Падрыхтавацца да атакі!

У мяне ўнутры быццам абарвалася штосьці, я стаяў, сам

цяпер я проста не мог наважыцца сказаць яму аб гэтым, зноў жа мне не хацелася ісці ў тыл з Грыневічам. Пасля ўсяго, што здарылася, мая непрыязнь да намесніка, якая ўзгарэлася ў траншэі, калі ён застрэліў Пульку, стала амаль пастаяннай, цяпер яе не магло пахіснуць і ўсведамленне таго, што ў гэтай сутычцы з Ананьевым праўда была, напэўна, за нампалітам. Але гэта, здаецца, была тая праўда, якая не надта лепей за вінаватасць.

Я счакаў яшчэ крыху і ўстаў, каб напомніць камроты аб сваім лёсе: колькі ж можна было сядзець тут параненаму?

І тут вышыня, якая некалькі гадзін запар насцярожліва маўчала, раптам загаманіла басіста-нетаропкай буйнакаліберпай чаргой.

— Дасядзеліся! — павяртаючыся да вышыні, буркнуў камроты і вылаяўся. — Хутка з мінамётаў лупіць пачне.

Але з мінамётаў пакуль не лупілі, а кулямёт таксама замоўк, хоць, вядома, яго паяўленне на вышыні не абяцала роце дабра. Шапа, акопчык якога быў праз дзесятак крокаў у насыпе, вылез на стаптаны адхон з лапаткай.

— Таварыш старшы лейтэнант, вам дзе выкапаць?

— Чакай ты!

Ананьеў нетаропка ўзлез на сваё ранейшае месца і асцярожна выглянуў над дарогай. Наступная чарга з вышыні ўжо не была нечаканасцю, камроты адно толькі ўгнуўся, штось прыгаворваючы самому сабе. І тут, уражаны раптоўнай здагадкай, я кінуўся да камандзіра роты.

Але я здагадаўся позна.

Ад самага флангавага акопчыка сюды ўжо хтось бег над канавай, трывожна пакрыкваючы і паказваючы рукой на пагорак. Ананьеў павярнуўся ў ягоны бок, мабыць, зразумеў таксама, і на руках і каленях падаўся па адхоне да Шапы.

— Ты і Грыцук — бягом! І глядзіце там...

Шапа, як заўжды сцяміў загад з паўслова, моўчкі падхапіў аўтамат і пабег за адхонам угору. Камандзір роты, выцягшы шыю, з непакоем глядзеў яму ўслед. У канцы ланцуга, дзе насып рабіўся ўсё ніжэй, яны папаўзлі па канаве і хутка зусім схаваліся.

«Чорт, няўжо падстрэлілі?» — падумаў я і адразу апаныў: мне ж таксама трэба было ісці той жа дарогай.

У трывожнай самоце чакання мінула каля гадзіны. Кулямёт, аднак, не страляў, а дождж усё спарнеў, туманная мгла ў хмарным небе слалася нізка, амаль чапляючы за пагорак. Я падумаў, што гэта добра, непагадзь нас прыхавае лепш за ўсё. Інакш, з гэтай лагчыны не вырвацца.

На жаль, наша асцярога спраўдзілася. Яшчэ здалёк стала відаць, што аўтаматчыкі кагосьці нясуць удвох на палатцы, няспрытна прыгінаючыся за невысокім у пачатку насыпам, хістаючыся пад цяжарам ночы. Калі яны падышлі бліжэй, з крайніх акопчыкаў нехта падскочыў да іх і на ходу пераняў з рук аднаго рог палаткі —



не адчуваючы сябе, не зусім верачы таму, што пачуў. Але Ананьеў не жартаваў, гэта было зразумела адразу, камандзір роты быў поўны рашучасці дабіцца выканання свае каманды. А дабіцца ён умеў.

Нехта выскачыў са свайго гразкага схові шча, над акопчыкамі заварушыліся палаткі, кляймёныя трафейныя коўдры, розныя вайсковыя лахманы. Схіл насыпу імгненна ажыў — усе занадта добра разумелі, што для нас азначае гэта кароценькая каманда.

Тым часам па балацявінцы ўжо бег Шапа, за ім, трошкі адстаючы, грузна трухаў Піліпенка з каскай на дзязе. Камандзір роты зацята чакаў на насыпе... Нязграбна пералезшы канаву, старшына з залішняй цяпер афіцыяльнасцю адказыраў і спыніўся, неспакойна пацепваючы плячыма і кідаючы страхавітыя позіркі на прыкрытага палаткай Грыневіча.

— Колькі чалавек маеш? — запытаў камроты.

— Я?

— Ты.

Піліпенка на момант збянтэжыўся, пераступіў на пякучым дзірване. Вядома, ён ужо палічыў сябе радавым і мабыць патроху звыкаўся з тым, а тут ротны, нібы нічога кепскага між імі і не здарылася, папытаўся пра ўзвод.

— Пятнаццаць, кажысь, — няўпэўнена сказаў старшына.

— Патронаў ёсць трохі?

— Трохі ё.

— Падрыхтавацца да атакі.

— Зараз?

— Зараз!

— Ёсць! — з незразумелай амаль радаснай рашучасцю гыркнуў Піліпенка. І ні здзіўлення, ні якога пытання — ён успрыняў загад так проста, нібы ад яго патрабавалі строіць узвод на вячэру ці ў лазню. Пасля ўжо я зразумеў, што тым самым Піліпенка без лішніх слоў вяртаўся да свае ранейшай пасады, якая, аказваецца, штосьці ўсё ж для яго значыла.

— І давай усіх сюды. У агульны ланцуг.

— Ну, відома, у агульны, — падхапіў Піліпенка. — Так мацней вдарыты.

Камандзір роты ўважліва паглядзеў на старшыну.

— І ты глядзі мне! Каб не цягнуліся, як на базар. Браском!

— Нэ хвалюйтэсь, пабіжаць. Я іх...

Ананьеў, не даслухаўшы, павярнуўся да Шапы.

— Прымай другі ўзвод.

— Я?

— Ты.

— Ёсць! — не адразу сказаў Шапа і было не зразумець узрадавала гэта яго ці занепакоіла.

— Што — не ўкамандуеш?

— Паспрабуем.

**ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ**



*Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Пімен.*

# ПАМЕСНЫ САБОР

## ВЯЛІКАЯ ПАДЗЕЯ Ў ЖЫЦЦІ РУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

У Троіца-Сергіевай лаўры пад Масквой адбыўся Памесны Сабор Рускай праваслаўнай царквы. Галоўнай мэтай сабору было выбранне новага патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі.

Пасля смерці патрыярха Алексія, вядомага дзеяча царквы, які, дарэчы быў узнагароджаны высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі за дзейнасць у абарону міру, абавязкі месцаахоўніка патрыярха звыш года выконваў старэйшы член Сіноду мітрапаліт Круціцкі і Каломенскі Пімен. Ён і быў аднадушна выбраны новым патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі.

Вялікая падзея ў жыцці Рускай праваслаўнай царквы прыцягнула ўвагу рэлігійнай грамадскасці ва ўсім свеце. На Памесны Сабор прыбылі выдатныя прадстаўнікі хрысціянскага духавенства з многіх краін. Удзельнікаў Сабору ад імя Савецкага ўрада вітаў старшыня Савета па справах рэлігій пры Савеце Міністраў СССР В. А. Кураедаў. У адказ у пасланні, адрасаваным Старшыні Савета Міністраў СССР А. Н. Касыгіну, удзельнікі Сабору выказалі сваё глыбокае прызнанне Савецкаму ўраду «за яго дзейнасць, накіраваную на працвітанне нашай Айчыны і ўмацаванне трывалага і справядлівага міру паміж народамі».

Сабор прыняў спецыяльны зварот да ўсіх хрысціян свету з заклікам «аб'яднаць намаганні для прадухілення пагрозы сусветнай вайны, умацавання дружбы, узаемаразумення і супрацоўніцтва паміж усімі народамі, змагацца за спыненне амерыканскага збройнага ўмяшання ва ўнутраныя справы народаў Паўднёва-Усходняй Азіі, дабівацца адмовы Ізраіля ад экспансіяністкай пазіцыі, каб на Блізкім Усходзе перамаглі мір і справядлівасць, усямерна імкнуцца да ўмацавання міру ў Еўропе, садзейнічаць усеагульнаму раззбраенню, памножыць свае міратворчыя намаганні і аб'яднаць іх з намаганнямі ўсіх людзей добрай волі».

*(«Савецкі Саюз»)*



*Пасяджэнні Памеснага Сабору праходзілі ў Троіца-Сергіевай лаўры ў Загорску.*

# ЗЛАВЕСНАЯ ТАЙНА ВЕРМАХТА

Аднак маскарад мала дапамог. Англійская разведка зноў даведалася аб знаходжанні штаба Вахтэля-Вольфа і аб пускавых прыстасаваннях, што будуюцца для бамбардзіроўкі Лондана. Дарэчы, хто ўказаў іменна гэту цэль? Сам «фюрэр»! Вахтэль-Вольф спрабаваў, як ён цяпер сцвярджае, схіліць Гітлера да таго, каб побач з Лонданам бамбардзіраваць і важнейшыя порты Англіі — Портсмут і Саўтгемптан, дзе канцэнтраваліся войскі ўварвання і флот саюзнікаў. Але аб гэтым, ваенным. аспекце аперацыі «фюрэр» нібы і чуць не хацеў.

— Мне патрэбна адплата! — крычаў Гітлер.

Аперацыя «Вішнёвая костачка» пачалася неўзабаве пасля высадкі на досвітку 6 чэрвеня 1944 года войск саюзнікаў пад камандаваннем генерала Эйзенхаўэра.

Праз некалькі гадзін Гітлер аддаў загад: «Румпелькамер. Цэль — 42». Гэта быў цэнтр Лондана. У штабе Вахтэля-Вольфа ў Сале (каля Ам'ена), які быў размешчаны на глыбіні 24 метраў пад зямлёю, захваляваліся. Але зусім не таму, што кожны выстрал «Фау-І» панясе ў магілу сотні, а, магчыма, і тысячы чалавечых жыццяў, а таму, што не ўсё яшчэ было гатова. Агонь адкрылі толькі к 12 чэрвеня.

І вось яны, завадатары разбойніцкай аперацыі, усю ноч сядзяць у бункеры ў «радасным хваляванні», як піша Макс Вахтэль. А старшы сярод іх, генерал Гейнеман, той нават у «дзікім захапленні»! Лічыў кожную секунду да пачатку адкрыцця агню і, як зачараваны, глядзеў на вялікую карту горада Лондана, што вісела на сцяне. Яна была празрыстай, ззаду было ўключана святло. Адзначаліся першапачатковыя цэлі.

Першы ж выстрал адсвяткавалі тостам у гонар «фюрэра». У тую ноч тостаў было ўсяго чатыры. Больш выстралаў зрабіць не змаглі — «па тэхнічных прычынах»... Кладучыся раніцай у пасцель, Вахтэль запісаў у свой дзённік: «Няўдача. Не клеіцца. Загад ад пачатку быў заўчасным». Вахтэлю пашанцавала. Калі б яго дзённік трапіў у рукі службы бяспекі, палкоўніка магла б напаткаць тая ж няўдача, што і іншага афіцэра вермахта, у якога знайшлі такі запіс, — расстрэл.

На якой стадыі падрыхтоўкі знаходзілася аперацыя «Вішнёвая костачка» ў чэрвені 1944 года? Самалёт-снарад «Фау — 1» увялі ў дзеянне, калі зброя гэта была яшчэ далёка недасканалай. Першы «Фау—1», напрыклад, накіраваны на Лондан, узарваўся ў 32 кіламетрах ад цэлі. Апарат рулявога кіравання ў той жа момант змяняў курс, як толькі ў яго трапляла хоць адна пясчынка, і снарад мог не толькі значна ўхіліцца ад цэлі, але і ўпасці на зыходную пазіцыю, забіваючы людзей і разбураючы ўстаноўкі. Адказнай

# ТРЫБУНА чытачоў

## § Кансультацыя ▷ юрыста

### КАМПЕНСАЦЫЯ ЗА ШКОДУ

Гр. А. Р. закантрактаваў 1 га рапсу і застрахаваў плантацыю на выпадак дрэннага перазімавання і прымаразкаў. Засевы вымерзлі. Камісія, сцвердзіўшы гэта, забавязала А. Р. засеяць іншую культуру. Аднак дажджы так залілі дзялянку, што абрабіць яе было немагчыма. Ці можа ПЗУ, аблічаючы страхоўку, адлічыць прыблізную вартасць ураджаю заменнага засеву?

АДКАЗ: Нармальна, калі камісія, якая правярае знішчаную плантацыю, забавязвае таго, хто закантрактаваў, да яе абсеву іншай управай, а той гэтага абавязку не выконвае, ПЗУ мае права, устанаўліваючы страхоўку, адлічыць ад яе прыблізную вартасць ураджаю, які можна было б сабраць з гэтай заменнай управы (зразумела, па адлічэнні коштаў насення і працы, патрэбнай да засеву і жніва).

У пададзеным прыкладзе засеў заменнай культуры, аказаўся немагчымым не з віны гаспадара, і таму няма ніякіх падстаў да адлічання прыблізнага даходу, які ён мог бы атрымаць, калі б поле засеяў. Павінен ён атрымаць поўную вартасць рапсу, які вырас бы, калі б замаразкі яго не пашкодзілі з адлічэннем коштаў збору і ўмалоту рапсу. Калі б справа апынулася ў судзе, гаспадар мусіў бы даказаць, што заменны засеў быў немагчымы не з яго віны.



*Нам смакуе марожанае.*
*Фота: Я. Цялушэцкі*

### ЖНІВО

Сяляне Крывяціч закончылі жніво і звозку жыта. Сельскагаспадарчы гурток добра выконвае свае абавязкі. Недахопы адчуваюцца аднак у забеспячэнні мясцовай крамы спажывецкімі таварамі. Няма (як сёлета дажджу) аранжады, піва, затое часценька прывозяць селядцы. Цікава, як чуўся б пры жніве той, хто заказвае селядцы, наеўшыся іх пры 27 градусах цяпла без вады, аранжады і г.д.

*В.К. Крывяцічы*

## Сардэчныя тайны

*Дарагое Сэрцайка!*

Мы з Алікам сябруем ужо амаль год часу. Ён працуе і пражывае ў павятовым горадзе на Беласточчыне. Я ў іншым мястэчку. Неўзабаве (у пачатку жніўня) будуць яго імяніны. На гэтую ўрачыстасць запрасіў ён мяне. Будзе таксама мая сяброўка са сваім «хлопцам». Мы хочам паехаць усе разам раней, бо хочам выбрацца на дзень, каб зведаць ваколіцу, бо, як гаварыў мне Алік, там сапраўды ёсць што паглядзець. Мы паедзем цягніком, бо гэта значны кавалак дарогі. З гэтым паўстала праблема — як апрануцца. Хацела штосьці сабе купіць або пашыць новага. На жаль, нічога такога не знайшла. Цяпер не ведаю, што рабіць: ехаць ці не. Спадабалася мне вельмі белая карункавая блузка, але не знайшла я матэрыялу на спадніцу (хацела пашыць міді з чорнага матэрыялу). Маю шэрую спадніцу, але яна простая, без усялякіх упрыгожванняў. Што цяпер мне рабіць, ехаць ці не? Мо, ты мне параіш?

*Стася з Б.*

*Стася!* Не трэба так моцна пераймацца, а падумаць, які знайсці з гэтага выхад. На маю думку, павінна ты купіць гэтую белую карункавую блузачку (цяпер яны модныя) і да яе надзець сваю шэрую спадніцу, якая, як пішаш, вельмі простага крою. Гэта вельмі добра, бо калі карункавая блузачка (гэта ўжо вельмі стройная), дык трэба да яе спадніцу як найбольш простую. Вось твая шэрая спадніца будзе якраз пасаваць да прыгожай, стройнай блузачкі. А на дарогу апрані штаны, а калі не маеш, і не можаш купіць (яны прыдадуцца табе і потым), апрані сукеначку, якая не мнецца. Гэты ўбор будзе табе і на падарожжа і на вандроўку.

*Жадаю пагоды і добрага самапачуцця.*

*Сэрцайка*



*Лета.* *Фота: Я. Цялушэцкі*

### ВЕСТКІ З ГДАНЬСКА

14 ліпеня адбылося пасяджэнне праўлення аддзела БГКТ у Гданьску, на якім быў прыняты план працы на II паўгоддзе 1971 г.

Апрача іншых актуальных спраў таварыства, праўленне аддзела разгледзела пісьмо Фронту адзінства народа. Згодна з просьбай, рашыла выбраць у Ваяводскі камітэт ФАН дагэтуляшняга намесніка старшыні аддзела БГКТ Я. Мацкевіча.

*

19 ліпеня 1971 года аддзел БГКТ у Гданьску арганізаваў грамадскі чын з нагоды Свята адраджэння Польшчы.

Нягледзячы на канікулы і водпускі, многа членаў вельмі ахвотна выконвала грамадскую працу ў аліўскім зоо. Кіраўніцтва шчыра і сардэчна падзякавала за гэта ўсім прысутным гданьскім беларусам.

*Анна Красько*

### КРАМА ЗАКРЫТА

На вёсцы жніво. Час рабочы. Чуем па радыё і чытаем у прэсе, што на гэты час вясковыя крамы добра забяспечаны асноўнымі спажывецкімі прадуктамі. Не час на тое, каб спячы свой хлеб, ці падрыхтаваць абед. Кожны выкарыстоўвае добрую пагоду і стараецца закончыць у пору жніво.

У Плёсках захварэў прадаўшчык і ляжыць у бальніцы. Другі тыдзень крама пад замком. Ніхто не праяўляе клопату, каб на час хваробы прадаўшчыка паставіць тут іншую асобу. А сяляне Плёскаў моцна адчуваюць адсутнасць прадаўшчыка. І ніхто не ведае, калі ён вернецца. Няма дзе купіць хлеба, цукру. Трэба ўсё зрабіць, каб крама была як мага хутчэй адкрыта.

*Чытач*

### У КЛУБЕ



У клубе селяніна ў Чэхах Арлянскіх вельмі прыемна. Тут пануе ўзорны парадак. Клуб багата забяспечаны часопісамі і кніжкамі. Таму і карыстаецца ён папулярнасцю. Збіраецца тут шмат моладзі і дарослых. Кожны нешта знойдзе для сябе.

*Тэкст і фота В. Бура*

за стварэнне «Фау—1» была люфтвафе — ваенная авіяцыя, што падпарадкоўвалася Герынгу. Ракета «Фау—2» знаходзілася ў распараджэнні сухапутных сіл.

Упершыню аб якойсьці «сакрэтнай зброі», не называючы яе, упамянуў сам Гітлер, выступаючы 19 верасня 1939 года ў Данцыгу. Тады ён загаварыў аб «новай нямецкай зброі, наяўнасць якой гарантуе Германію ад нападзення».

Агенты англійскай разведкі пачалі ўзмоцненыя пошукі. У розных паведамленнях сустракаліся ўказанні на такія віды зброі, як новыя хімічныя і бактэрыялагічныя сродкі, новыя міны, падводныя лодкі, магнітныя і паветраныя тарпеды, слізготныя бомбы, беспілотныя самалёты, «промні смерці», промні, якія выключаюць маторы, дальнабойныя гарматы і ракеты. Аб ракетах гаварылася толькі ў адным агентурным паведамленні. Іменна яно і прыцягнула найбольшую ўвагу Інтэліджэнс сэрвіс.

Але тое, што праслаўленая разведвальная арганізацыя, якую на Захадзе яшчэ не так даўно называлі «лепшай у свеце», толькі цяпер зацікавілася германскімі ракетамі, гаворыць аб тым, што яна не была на вышыні: немцы ж пачалі работу над ракетамі яшчэ ў 1936 годзе. Захоўваючы вялікую сакрэтнасць, яны стваралі так званы «Агрэгат—4», які стаў пазней вядомы як «Фау—2».

Адкуль узялася гэта назва і што яна азначае? «Фау» — назва першай літары нямецкага слова «Vergeltung» («Адплата»). Так у прапагандысцкіх мэтах ахрысцілі гітлераўцы свой «цудзброю».

Упершыню англійская разведка даведалася аб «Фау» у кастрычніку 1939 года, але на працягу трох гадоў яна праяўляла незразумелую бестурботнасць. Толькі ў лістападзе 1942 года д-р Джонс, начальнік брытанскай контрразведкі, выступіў з перасцярогай: «Існуе вялікая небяспека, што мы можам апынуцца ў вельмі сур'ёзным становішчы»,

Бестурботнасць англійскай разведкі, як і вышэйшага ваеннага камандавання, праявіліся і ў тым, што да сакавіка 1943 года ў Лондане меркавалі, што «нямецкія ракеты» — або блеф або яўная дэзінфармацыя праціўніка з мэтай пасеяць у Англііі паніку. Толькі 23 сакавіка здарылася нешта такое, што пацвердзіла здабытыя звесткі. А адбылося гэта так. Двух генералаў вермахта, фон Тома і Кругеля, узятых англічанамі ў палон у Паўночнай Афрыцы, наўмысна пасадзілі ў адно памяшканне, абсталяванае адчувальнымі мікрафонамі. Цэлы дзень, ведучы гутаркі паміж сабой, яны, між іншым, выказалі здзіўленне, што Лондан усё яшчэ не разбураны нямецкімі ракетамі. Гэта, нарэшце, прымусіла англійскі ўрад дзейнічаць, хаця сярод самых высокапастаўленых асоб не спыняліся сумненні правільнасці гэтых звестак. Напрыклад, асабісты саветнік Чэрчыля па справах навукі лорд Чэруэл сказаў 25 кастрычніка 1943 года: «У канцы вайны, калі мы даведаемся аб усіх падрабязнасцях гэтай гісторыі, высветліцца, што ракеты былі фікцыяй». Пазней, 8 лістапада, ён заявіў: «Так званыя ракеты — на справе выдумка Гебельса з мэтай узняць баявы дух вермахта; яўная дэзінфармацыя з мэтай адцягнуць нашу ўвагу; немцам яшчэ не ўдалося вырашыць тэхнічныя пытанні стварэння ракеты далёкага дзеяння».

*(Працяг будзе)*

### ПРЫКРАЯ СПРАВА

У апошні час у Крывяцічах ідзе «вайна» з мясцовай клубовай клуба «Рух». Супраць Олі Дружбы, якая мае двое дзяцей (з мужам не жыве — ён п'яніца) выступаюць сваякі яе мужа, стараючыся пазбавіць яе працы. Прыкрая гэта справа, таму што Оля Дружба, як ніхто дагэтуль, клуб «Руху» вядзе ўмела. У мясцовай святліцы адбыўся сход моладзі, быў таксама прадстаўнік з Бельска, на якім моладзь выступіла ў абарону клубовай. На цвярозы розум на што ўпрыкраць пакрыўджанай жанчыне жыццё. Яна мусіць жыць і выхоўваць сама двое дзяцей, карміць, пасылаць у школу. Трэба ёй дапамагчы.

*Ваня Кірызюк*

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Niepokoje wychowanka Torlessa" (NRF), 17—18. „Wilcze echa" (polski), 19—20. „Mały" (polski), 21—22.

**Нараўка**

„Ostatni termin" (USA), „Zabawy w muzeum" (węgierski) 18—22.

**Нарва**

„Ostatnie wakacje" (radz.), „Znaki na drodze" (polski) 18—22.

**Чыжы**

„Ucieczka w kajdanach" (USA), „Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 18—22.

**Дубічы Царкоўныя**

„Labirynt miłości" (radz.), „I znów z tobą" (węgierski), 18—22.

**Арэшкава**

„Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), „Wielka miłość" (USA), 21—22.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Album polski" (polski), „Drugi tor" (NRD), 18—22.

**Орля**

„Alba Regia" (węgierski), „Dziki pies Dingo" (radz.), 18—22.

**Райск**

„Twarz anioła" (polski), „Kosmos wzywa" (radz.), 18—22.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Brzoza" (jugosł.), 17—18. „Tajemnice Kalakry" (bułg.), 18—22.

**Янаў**

„Ambasadorowie nie mordują" (NRD), 18—22.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Poste Restante" (rumuński), 17—18. „Pan Dodek" (polski), 19—20. „Sklep z modelkami" (USA), 21—22.

**Мельнік**

„Noc Iguany" (USA), 17—18. „Ranny w lesie" (polski), 19—20. „Pejzaż z bohaterem" (polski), 21—22.

**Мілейчыцы**

„Człowiek z karabinem" (radz.), 17—18. „Na torze czeka morderca" (czeski), 19—20. „Pan Dodek" (polski), 21—22.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Na tropach szpiega" (radz.), „Po kruchym lodzie" (radz.), 18—22.

**Новы Двор**

„Zwiadowca" (rumuński), „Drugi człowiek" (polski), 18—22.


Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 5.673 E-3

